# Самапомач Гаспадарчы

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

**Rok VIII. Wilno, Styczeń-Luty 1939 г. № 1-2 (87-88).**

**Год VIII. Вільня, Студзень-Люты 1939 г. № 1-2 (87-88).**



*Аб чым піша «Самапомач»:*



**Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.**

# Жыць хочам і будзем

Новы, па чарзе ўжо восьмы, гадавік „Самапомачы“ пачынаем з некаторым апазьненьнем. Прычын на гэта зложылася ня мала. Моцна верым аднак, што чытачы нашы нас зразумеюць і за спазьненьне дакараць ня будуць. Да звычайных нашых хлопатаў з канцом аднаго і пачаткам другога году, як выраўнаньне бюджэту, састаўленьне пляну працы на будучыню, далучыўся йшчэ сёлета хлопат новы: падшуканьне новага рэдактара, на месца дагэтуляшняга, інж. Ад. Клімовіча, каторы, як ведама, змушаны быў у канцы мін. году (27.XII.38) пакінуць Вільню і наагул г. зв. прыгранічную паласу,

З абноўленым кругам рэдакцыйных працаўнікоў прыступаем да „старой“ працы: прабуджаньня й падтрымліваньня ў душах нашага беларускага селяніна таго пераканаяньня, што **дабрабыт** ці галіта ягоная гэта ў першую чаргу яго собская заслуга або віна. Людзі не заўсёды любяць, калі ім кажуць праўду проста ў вочы. „Самапомач“ ад самага пачатку выбрала сабе гэту непапулярную дарогу: называць рэчы па іменьні, на колькі гэта ў часапісе можна, на нікога не спадзявацца, быць гатовым усюды падставіць сваё плячо.

Пачатак нашай працы ў гэтым кірунку быў цяжкі. Ня лёгкая гэта праца і сягоньня. З праўдзівым аднак задаваленьнем і бяз ценю перахвалак мусім на парозе новага году працы сьцьвердзіць, што цьвёрдыя нашыя словы трапілі і на грунт прыдатны. Доказам гэтага ёсьць не „саламяны агонь“, якім людзі часта загараюцца, але сыстэматычнае супрацоўніцтва з намі ўсё шырэйшых і шырэйшых кругоў нашага беларускага сялянства. Ня тоімся з тым, што ня ўсе вытрывалі, хто працаваць з намі пачаў. Людзкая гэта рэч. Верым аднак, што з шмат кім з іх яшчэ сустрэнемся, так як з шмат кім ужо з такіх-жа адзінак сустрэліся і ў поўнай гармоніі працуем.

Што-ж далей ставім сабе за заданьне?

Хочам у большай яшчэ меры пашыраць сярод беларускага сялянства знаёмасьць новачаснай земляробскай тэхнікі. З гэтай мэтай, побач з тэхнічнымі артыкуламі аб справах бягучых, будзем і далей вясьці *дадатак*, з каторага пасьля будуць асобныя кніжачкі. У параўнаньні з апошнім годам розьніца будзе тая, што такіх кніжачак будзе не адна, а больш, але затое з канешнасьці будуць яны адпаведна меншыя. Першую такую кніжачку пачынаем друкаваць ужо ў гэтым падвойным нумары.

Далей, хочам больш зацесьніць наша супрацоўніцтва з самымі чытачамі „Самапомачы“. Гэта знача— мы вельмі ахвотна бачылі-б апісаньне спосабаў гаспадаркі з практыкі; рады ведаць, як каму ўдалося застасаваньне таго, што апісвалася ў „Самапомачы“ ці ў якім іншым часапісе, незалежна ад таго, ці такое застасаваньне ўдалося ці не ўдалося, — і чаму?

Асобная справа—гэта пытаньні, скіроўваныя ў нашу рэдакцыю на ўсякія тэмы. Тут-жа мусім агранічыцца, што адказваньне на такія пытаньні, калі яны нават да-

тычаць і гаспадаркі, не заўсяды па сілах рэдакцыі, якая ня ёсьць нейкім чараўнікам — усёведам, ані ня мае на свае ўслугі цэлай арміі працаўнікоў, лябараторыяў і г. д. А ўжо ні ў якім выпадку рэдакцыя ня можа браць на сябе абавязку хадзіць нейдзе па месьце і зьбіраць розныя інфармацыі (ці нават купца на цыбулю, на грыбы і г. п.). Гэта ўсё аднак не выключае, а нават вельмі пажадана, каб самі чытачы дамагаліся апісаньня ў „Самапомачы" тых справаў і пытаньняў гаспадарскіх, якія іх цікавяць. Натуральна, адказу на такія запатрабаваньні ў першую чаргу можа спадзявацца той, хто мае аплачаную гадавую падпіску. — А згэтуль вывад, што кожны чытач „Самапомачы" хай будзе ейным падпішчыкам.

Расьці і мацнець будзем толькі тады, калі рады нашых чытачоў будуць павялічвацца. Дык хай кожны наш чытач да новага году здабудзе прынамся аднаго сябру новага!

*Выдавецтва.*

# Наша першае заданьне

Праўды некуды схаваць. Лішняй ахвотай шырокіх і найшырэйшых кругоў нашага сялянства да чытаньня вельмі не пахвалімся. Злажылася на гэта шмат прычынаў, а не апошняй з іх была і да сягоньня ёсьць — тая, што чужая школа не патрапляе прышчапіць нашым людзям ахвоты да кніжкі. Школа асталася сабе, а жыцьцё кожнага ўпрагае ў свае адвечныя „аглоблі" і гоне тым-жа адвечным шляхам бяды і недастатку.

Але на гэтым не канец. Чалавек, які не падружыўся з кніжкай на лаўцы школьнай, пасьля ў жыцьці сваім глядзіць на гэту кніжку калі не як на свайго прасьледаваццеля, як на нейкую змору, то ў кожным разе як на нешта, з чым можна лепш ці горш пабавіцца, але без чаго можна зусім лёгка абыйсьціся. Яшчэ пачытаць нейкую кніжку „сьмешную" — так, пачытае. Апошнія выпадкі сусьветнай палітыкі прабудзілі мясцамі зацікаўленьне да сэнсацыйнай, так званай рэвольвэрнай прэсы (бруковай). Мясцамі ёсьць зацікаўленьне да чытаньня гістарычных повесьцяў, раманаў — гэта ўжо поступ, толькі-ж сваей гэткай лектуры ў нас няма, а чужая — ведама, які там падыход да гістарычнай праўды.

Асобную клясу ахвотнікаў р о д н а г а друкаванага слова становяць пачынаючыя і поўна-чынныя паэты: гэтыя людзі кніжкай жывуць.

# ZIEMLAROBSTVA Ŭ NIAMIEČČYNIE

Ahułam kažučy, dumajuć ludzi, što tolki Saviety zaviali ŭ siabie ahraničeńnie svabody čałavieka ŭva ŭsich halinach žyćcia jak duchovaha, tak i matarjalnaha, hetaha apošniaha moža pierad usim. A ŭ sapraŭdnaści tak nia jość. Saviety (balšaviki) byli tolki pieršymi ŭ hetym kirunku, a za imi pajšli i inšyja: i fašysty (italjancy,), i demakraty (anhlijcy, čechi). My tut siahońnia zatrymajemsia nad haspadarska-ziemlarobskimi paradkami ŭ našaha niedalokaha susieda na zachadzie — ŭ Niamieččynie, karystajučysia z publikacyi maładoha českaha vučonaha D-ra Fr. L o m a.*)

*) Dr. Fr. Lom: Narizeni o radnem obhospodareni pudy v Nemecku („Čsl. Zemedelec", № 3, 1939 h.).

Zabieśpiačeńnie prakarmleńnia niamieckaha narodu z sobskaha pola heta siahońnia hałoŭnaja meta niamieckaj ziamielnaj palityki. Słuža da hetaha asabliva „Čatyryhadavy haspadarski plan" Göringa i „boj za padniaćcie vytvorčaści ŭ ziemlarobstvie", pravodžany ŭ žyćcio ad 1933 h. Metaj usich hetych starańniaŭ jość padniać vytvorstva da taje miery, kab usio krajovaje žycharstva całkom prakarmiłasia z rodnaj hleby. U čatyryhadavym haspadarskim planie, zahadanym dnia 18 kastryčnika 1936 h., było vykazana, kab za hety čas Niamieččyna stałasia niezaležnaj ad zahranicy ŭva ŭsim, što narodu dać moža svaja ziamla, zdolnaść, chemija, mašynovy i horny promysły.

Choć hetkuju palityku samavystar-

Найгорш, так, найгорш хіба йдзе кніжка гаспадарская. Праўда, не бяз віны тут і самыя выдаўцы. Не сакрэт-жа нікому, што аб гаспадарскіх справах у нас (і ці толькі ў нас) браўся пісаць і пісаў першы-лепшы з берагу, у надзеі, што „на гэта ня трэба навукі.“ І ня дзіва, што пасьля выходзіла, як у тэй байцы Крылова:

> ...„Беда, коль пироги начнет печи сапожник,"
> А сапоги точать — пирожник."

Ці-ж ня так? І гэта ўжо нешта „атавістычнае;“ бо і селянін-жа кажа: „ужо што як што, але гаспадарыць з кніжкі то вучыцца ня буду!“ І праўду кажа. Бо калі кніжка аб гаспадарцы не напісана гаспадаром, дык скуль-жа там тая праўда і „навука“ знойдзецца? А другое — чаму гэта якраз гаспадарка, аб якой сягоньня сушацца найлепшыя галовы сьвету, раптам мае быць у нас такой тэмай, на якую кожны пачуваецца на сілах гаварыць і пісаць? Чаму? Якім правам?

Зьбіраючы ўсе кіненыя тут думкі, прыходзім да гэткага вываду:

1. Чытэльніцтва стаіць у нас дрэнна наагул, а асабліва — чытэльніцтва літаратуры гаспадарскае.

2. Усьлед за гэтым ідзе неахвота да якога-небудзь поступу ў нашай землябробскай гаспадарцы.

3. Як дзеля разьвіцьця чытэльніцтва і пашырэньня кніжнага рынку, так і дзеля падняцьця нашых сельскіх гаспадарак патрэбна гаспадарская літаратура першай якасьці, а ня ўсякія, няраз вельмі падазроныя перарообкі.

Маючы гэта наўвеце, заклікаем як практычных гаспадароў, так і многалічных ужо беларускіх аграномаў, каб не адкладалі, а зараз-жа хацелі нас паведаміць, хто аб чым мог-бы ўзбагаціць нашу гаспадарскую землябробскую літаратуру. Акляпаная „нястача часу,“ думаем, нікога не апраўдае, а гісторыя бязьмілaсэрна можа заклеймiць кожнага, хто скорым быў да крытыкі, але апошнім да працы.

Сягоньня гэта важна перад усім.

Рэд.

# Азіміны ўзімку

Падчас зімы расьліны пагружаюцца ў сон. Ня значыць гэта аднак, што яны ня жывуць. Яны жывуць, а перадусім аддыхаюць на падабенства чалавека ці жывёлы ў сьне. Дзеля гэтага няспрыяючая пагода ўзімку можа быць небясьпечная для расьлін, таксама як улетку ці вясной.

Ня можна сказаць, каб сёлетняя зіма была для азімін спрыяючай. Па даволі цёплай восені, дзякуючы чаму расьліны разьвіліся буйна, наступілі раптоўна вялікія маразы, бяз сьнежнага пакрыцьця. Толькі па некалькіх днях нападаў сьнег, а пасьля ў хуткім часе на-

čalnašci i trudna viašci praz daŭžejšy čas, to adnak z pryčyn zahranična-palityčnych i handlovych Niamieččyna zmušana trymacca hetaj darohi. A treba viedać, što najmienš adna piataja častka nasielnictva Niamieččyny, narmalna biaručy, zmušana karystać z charčoŭ pryvožanych z zahranicy. Tym bolšuju vartašć maje zahadanaja čatyryhodka. Jak-ža niemcy da pastaŭlenaj mety iduć?

Pierad usim kažny, chto haspadaryć na ziamli, pavinien heta rabić d o b r a, da hetaha kažny zabaviazany adumysnym zakonam. Što znača d o b r a haspadaryć?

Heta pytańnie mučyła niemcaŭ ad samaha pačatku sušvietnaj vajny, a navat na doŭha pierad jejnym pačatkam. Asabliva ŭ časie vajny na ziemlarobaŭ byli ŭzłožany roznyja abaviazki, nie kaniečna karysnyja dla ich samych, a nakiravanyja na toje, kab z abrablanaj ziamli atrymać jak najbolš praduktaŭ dziela prakarmleńnia žycharstva haradzkoha i fabryčnaha. Pa vajnie hetyja nakazy adzin pa druhim kasavalisia i ziemlarobstva stavałasia bolš-mienš volnym, kiravałasia pryncypam p r y v a t n a - ekanamičnym. Apošni taki nakaz ab ahraničeńni svabody ziemlarobaŭ u Niamieččynie byŭ skasavany ŭ 1929 h.

I što stałasia?

Układajučy praz doŭhija hady ŭ ziamlu šmat pracy i vialikija hrošy, niamieckija ziemlaroby bačyli, što im heta nie zaŭsiody apłačvajecca. Pačali navat zusim adkryta pryzadumyvacca, ci nia varta im u svaich haspadarkach pierajšci

стала адліга, прычым тэмпэратура паднялася да пару градусаў вышэй нуля. Дзеля таго што жыта пачынае расьці пры 4⁰Ц, то можна дапускаць, што там, дзе няма пакрывы сьнежнай, збожа далей будзе расьці. Як бачым, пагода ня была спрыяючай.

Жыта можа перанясьці да 25⁰Ц марозу, дык хіба не пацярпела. Але пагроза можа быць для канюшыны, перад усім чырвонай. З другой стараны надта буйнае разьвіцьцё руні азімых расьлінаў прадстаўляе іншую небясьпеку, а іменна выпрэньне зімой або вылеганьне ўлетку. Як адно, так і другое зьяўляецца вельмі шкодным для збожа.

Выпрэньне паўстае з тэй прычыны, што расьліны зімой не бяруць пажывы з зямлі карэньнямі, аднак дыхаюць, зужываючы тлён з паветра. Калі з прычыны адлігі і пасьля прымаразку на пласьце сьнегу створыцца лядавая скарупа, каторая не прапускае паветра, дык расьліны задыхаюцца (душацца) і паміраюць. Чым буйней вырасла рунь увосень, тым больш патрабуе сьвежага паветра і тым хутчэй можа замерці. Наадварот, расьліны менш разьвітыя патрабуюць менш паветра і даўжэй могуць без яго ўтрымацца пры жыцьці. З другой стараны расьліны, каторыя ўжо восеньню надта буйна вырасьлі, маюць нахіл да выляганьня. Гэта датыча перад усім пшаніцы, каторая, як ведама, мае здольнасьць да кушчэньня вясной. Запабегчы гэтаму можна затрыманьнем расьлін у ўзросьце. Дзеля гэтага радзіцца рунь спасываць хатняй жывёлай або выкашываць. Калі стасуем спосаб спасываньне, то тут трэба ведаць, што жывёлу мусім хутка пераганяць праз збожа, каб яна зрывала толькі верхняе лісьцё. Пры даўжэйшым пасьвіньні на адным месцы можа жывёла пашкодзіць зародышам каласоў, якія знаходзяцца ў дольнай частцы сьцябла. Калі-ж спасваем азіміны авечкамі, каторыя зьядаюць расьліны каля самай зямлі, то праганяць іх трэба яшчэ хутчэй, каб ані хвіліны не затрымліваліся на адным месцы.

Калі на сьнягу ўтварылася лядавая пакрыва, то трэба яе паламаць — ці то баронамі, ці праганяючы быдла і коняў, або ўрэшце пабіць віламі, рыдлёўкамі. У кожным выпадку ня можна яе астаўляць на азімінах, бо тады ўшкоджаньне расьлін ёсьць больш чым пэўнае, што ў рэзультаце дасьць вялікія страты.

На цяжкіх землях, занадта вільготных і мала прапушчальных, пагражае іншая небясьпека — награмаджэньне вады на пасевах, чаго жыта зусім ня зносіць. Для забесьпячэньня трэба парабіць барозны, або іншым спосабам адвясьці з поля лішнюю ваду.

На землях лёгкіх, тарфовых, зямля мае склоннасьць уздымацца пад дзеяньнем марозу. Верхні пласт зямлі падый-

---

da sposabaŭ pracy ekstensyŭnych (z mienšym układam pracy i hrošaŭ).

Hetak dumali v o l n y j a ziemlaroby, a ŭžo 6-ha sakavika 1930 h. źjezd uzrastajučaj tady ŭ siłu partyi nacyjanał sacyjalistaŭ (Hitler) vynies pastanovu, na padstavie jakoj:

„Uładańnie ziamloj, zdabytaj narmalnym paradkam niamieckimi ludźmi, uvažajecca jak spadkajemnaja majemaść. Heta ŭłaśnickaje prava adnak ahraničana pavinnaściu vykarystyvańnia hleby tak-ža na karyść niamieckaha narodu“.

Pavodle hetaj pastanovy nia možna ŭvažać ziamlu, jak častku majemaści, katoruju ŭłaśnik moža zusim volna zbyvać, ale treba ŭvažać jaje jak žyćciovuju asnovu narodu. Prava ŭładać hetaj ziamloj źviazana z abaviazkam abrablać i vykarystoŭvać jaje ŭ intaresie i na karyść narodu. Na hetaj pavinnaści ŭsiaho sialanstva apracavany „Niamiecki ziamielny ład“, z jakoha vypłyvaje dla sielanina abaviazak d o b r a haspadaryć: kab haspadarka ŭtrymałasia ŭ rukach rodu i kab pradukcyja z hetaj haspadarki była poŭnaściu padparadkavana patrebam prakarmleńnia niamieckaha narodu. Chto hetaha abaviazku nia vykanaje, toj moža być pazbaŭleny prava samomu volna haspadaryć na svajoj haspadarcy, abo navat zusim z haspadarki hetaje vyhnany. Kali-b zdaryŭsia pierachodny vypadak błahoj haspadarki, dyk na hetkuju haspadarku moža być prysłany adumyslovy ekanom.

Ale i tyja ziemlaroby, jakich haspa-

# Колькі слоў аб палепшаных угнаеньнях

Жыцьцё не стаіць на месцы. Асабліва-ж рухлівай ёсьць тэхніка, якая мусіць усьцяж ісьці наперад, каб утрымаць за сабой права да жыцьця. Гэтак усюды, гэтак і з тэхнікай прыгатаўляньня штучных угнаеньняў. Аб свомасьцях штучных угнаеньняў наш асабліва беларускі селянін ніколі ня быў за шмат усьвядомлены. Таму пры спасобнасьці гутаркі аб паляпшэньнях угнаеньняў, добра і на месцы будзе сказаць колькі слоў аб штучных гнаёх наагул.

Вот-жа штучны гной, ці штучнае угнаеньне, як сам назоў паказвае, гэта штучнае, ненатуральнае, замяшчэньне недастатку ў глебе розных кармовых сучасткаў для расьліны. Галоўных такіх сучасткаў ёсьць тры: азот, фосфар і паташ. Усе яны ў меншай меры знаходзяцца ў гнаі натуральным (хляўным), але ў гнаі штучным найчасьцей ёсьць толькі адна складовая (часам дзьве) частка, ад каторай сам гной і мае свой назоў. Спатыкаецца гэтак: угнаеньне азотнае, фосфарнае і паташнае. Побач з гэтымі, быццам галоўнымі, складовымі сучасткамі штучных угнаеньняў бываюць сучасткі іншыя, перад усім вапна.

Хоць усе штучныя гнаі да сябе адпаведна падобныя (азотныя да азотных і г. д.), то аднак у кожным краі, у кожнай старонцы ёсьць і свае асаблівасьці. Ніжэй разгледзім найнавейшыя свомасьці штучных гнаёў выробляных ў Польшчы.

Вот-жа спаміж азотных гнаёў тут вырабляных на асаблівую ўвагу заслугоўвае **азотняк**. Гной гэты сваімі свомасьцямі гнойнымі заступае салетру, не выпаласківаецца і надаецца на ўсякія гатункі глебы. Адна бяда, што данядаўна яго трудна было разсяваць: пыліўся, шкодзіў на вочы і разгрызаў рукі. Гэту нястачу фабрыка спачатку перамагла дадаючы да азотняку алівы; атрымаўся азотняк аліўлены ці йнакш — грануляваны. Апошнім часам поступ пайшоў

---

маецца, пацягваючы за сабой уверх расьліны, каторых карэньне ці то адрываюцца, ці то канцамі сваімі вісяць у паветры. Калі гэта паўторыцца пару разоў, то расьліны падыймаюцца ўгару, а карэньні астаюцца голымі. Калі-ж да гэтага трапіцца востры зімны вецер, то расьліны масава гінуць.

Дзеля гэтага, як толькі спасьцеражом зьявішча ўздыму верхняга пласта зямлі, то безадкладна трэба яе звалаваць цяжкім валам, каб дацiснутыя карэньні расьлін да зямлі маглі ўчапіцца за яе.

*З. К.*

---

darka nia jość spadkajemnaj, majuć tojža abaviazak haspadaryć na karyść usiaho narodu. Heta vypłyvaje z zadačaŭ ziemlarobstva, jak charčaŭnika ci karmilščyka ŭsiaho žycharstva kraju. Praŭna-ž heta było aformlena novym zakonam ab haspadaravańni na ziamli z dnia 23 sakavika 1937 h. i vykanaŭčym rasparadžeńniem da hetaha zakonu z dnia 22 krasavika 1937 h. U zakonie hetym miž inšym skazana:

„U praciahu čatyryhodniaha planu treba dasiahnuć volnaje samavystarčalnaści ŭ prakarmleńni niamieckaha narodu, pierad usim padyjmajučy ŭradžajnaść rodnaj hleby. Usie, chto ŭładaje pryhodnaj da abrablańnia ziamloj, abo ziamloj niaŭžyvanaj, ale pryhodnaj pad ziemlarobskuju kulturu, pavinien hetu ziamlu tak abrabić, kab jana służyła pastaŭlenaj mecie“. Asnova hetaha zakonu ŭ tym, što adpaviednyja ŭłady mohuć kiepska haspadaračaha ziemlaroba (ułaśnika ci arendatara):

a) zaklikać, kab haspadarku palepšyŭ,
b) nakinuć nadzor,
c) nakinuć ekanoma,
d) abo ŭreščie zahadać addać haspadarku ŭ arendu.

Haspadarski nadzor — heta tolki „rada“ haspadaru z boku „nadzorščyka“, jak maje zlepšyć haspadarku. Kali-b haspadar hetkich „radaŭ“ nie pasłuchaŭ, mohuć jamu adpaviednyja ŭłady zahadać henu „radu“ vykanać i pakryć košty. — Vastrejšym jość užo nakinieny ekanom. U takim vypadku sam haspadar tracić

яшчэ далей—пачалі вырабляць азотняк **зярністы,** у якім знаходзіцца аж 21 прац. азоту (у салетры ёсьць 15 з палавінай прац. азоту). Гэты азотняк зусім ня пыліцца. Стасуецца гэты азотняк за колькі дзён прад пасевам і прыкрываецца бараной.

Добрым азотным угнаеньнем такжа ёсьць **грануляваны салетрак,** які мае ў сабе 15 з палавінай прац. азоту і каля 55 прац. мелкай распускной вапны. Палавіна азоту ў салетраку знаходзіцца ў хутка распускной форме салетранай, а другая палавіна ў форме аммоніякальнай, якая распускаецца ў зямлі вальней. Ужываецца найчасьцей дзеля гнаеньня паверсе („на ліст").

У апошніх месяцах, у зьвязку з прылучэньнем да Польшчы Краю Заользя (ад Чэхаславаччыны), на рынку ў Польшчы зьявіўся йшчэ адзін новы азотны гной—**шэрая серкавая соль амонная.** Ейны брудны выгляд не аднаго адстрашае; а гэта няслушна, бо колер гэты нічога іншага не азначае, як толькі тое, што гэты гной інакш вырабляецца. Гэта ёсьць найтаньнейшы гной. Ужываецца ён пад азіміны як прад пасевам, так і „на ліст". Пасыпаную „на ліст" серкавую амонную соль трэба прыбаранаваць. Дзеіць павольна. Надаецца на ўсякія *незакквашаныя* глебы.

Спаміж гнаёў фосфарных на першую чаргу трэба ўспомніць аб супэрфосфаце. Новы **супэрфосфат амоніякальны** акрамя 12 прац. квасу фосфарнага мае ў сабе йшчэ 4—6 прац. азоту ў форме амоніякальнай. Асабліва цэнным гэткі супэрфосфат аказваецца пад буракі цукровыя і кармовыя.

Урэшце спаміж новых угнаеньняў паташавых (калійных) трэба ўспомніць **40 прац. паташавую соль бораксаваную,** асабліва цэнную на глебы, на каторых спатыкаецца спаленізна буракоў або сухое гніеньне карэньня. Гной гэты хутка распускаецца і таму яго можна сеяць на коратка перад пасадкай самых буракоў.

Пад расьліны, якія ня любяць хлёру, як бульба, ячмень, найлепш стасаваць новы паташавы гной —**калі—магнэзію,** якая мае у сабе 55 прац. серчану магнэзу, 35 прац. серчану паташу і каля 18 прац. паташу. Найбольш ужываецца гэты гной у садоўніцтве, у агародніцтве, пры ячмені браварняным, а перад усім пад заводную бульбу, у якой хочуць мець шмат крахмалу. Гной гэты памалу распускаецца ў глебе і таму яго трэба высейваць у глебе нават за два месяцы перад уласьцівай сяўбой.

*С. Я—віч.*

*Да гэтага нумару далучаюцца разрахунковыя перказы, якімі просім пераслаць належную за „Самапомач" падпіску.*

---

užo prava kiravać svajej haspadarkaj i ŭsiakim inšym svaim kapitałam. Nia moža sam ani pakiravać svajej haspadarkaj, ani navat pradać štości z praduktaŭ hetaje haspadarki. Usio heta robić pryslany ekanom, katory ŭ dadatak abličaje sabie naležnuju adpłatu. Sam-ža haspadar maje mieć z svaje haspadarki tolki pamieškańnie i charčy na pražyćcio. Hetki stan moža tryvać datul, pakul ułady buduć uvažać jaho za kaniečny, ale najčaściej tryvaje jon praz čatyry hady.

Ab usich hetych ahraničeńniach pastanaŭlaje adumysłovy sud, u katorym pobač z fachovymi suddziami zasiadajuć tak-ža naznačanyja „sielskim pravadyrom"*) pradstaŭniki ad sialan.

Koratka kažučy, kab haspadarka jšła pavodle novych vymahańniaŭ niamieckaj ziamielnaj palityki, kožnaja takaja haspadarka pavinna davać vysokija vałavyja (syryja) dachody: na rynak pavinna dastaŭlać šmat usiakich praduktaŭ, a sama pavinna kuplać i pierarablać šmat štučnych hnajoŭ, mašynaŭ i h. d. Inakš pastupać niamiecki ziemlarob siańnia nia śmieje; navat tady, kali-b rachunki pakazvali jamu, što ŭsio heta jamu nie apłačvajecca.

*K.*

*) „Sielski pravadyr" heta ŭ siańniašniaj Niamieččynie pradstaŭnik Ministerstva Ziemlarobstva. Sam ministr Ziemlarobstva jošć hałoŭnym takim pravadyrom.

# Як цёпла павінна быць у хляве

Арганізм жывёлы мае пэўную ўласьцівую толькі той жывёле тэмпэратуру цела, аднолькавую так летам як і зімой. На падтрыманьне гэтай тэмпэратуры зужываецца частка даванага корму. Зразумела, што зімой перад усім у надта халодных памешчаньнях спажыцьцё пашы ёсьць большае.

Жывёла — пры той самай колькасьці пашы — дае менш малака або слабей прыр стае на вазе, гарэй укармліваецца. З гэтай прычыны гаспадар павінен старацца запэўніць для сваёй жывёлы цёплае памешчаньне на зіму, каб жывёла, даваны корм у цэласьці, зужывала на адбудову свайго арганізму, на прадукцыю малака і т. п. а як найменш на падтрыманьне свайго цела. Адзначыць аднак трэба, што 100 прац. зужыцьцё корму на прадукцыю ёсьць немагчымым, а гэта дзеля таго, што сярэдняя тэмпэратура нашага клімату ёсьць ніжэйшай ад тэмпэратуры цела хатняй жывёлы; гэта значыць, што пры найбольшых стараньнях амаль немагчыма запэўніць жывёле такога памешчаньня, каб ня было патрэбы падтрымліваць цеплаты цела зужыцьцём часьці корму.

Калі-б аднак памешчаньні (хлявы, аборы і стайні) былі-б так цёплыя, напрыклад аграваныя печкамі, так што тэмпэратура паветра адказывала-б тэмпэратуры цела жывёлы, то пабачылі-б, што ня толькі нічога на гэтым не скарысталі-б, але яшчэ пацярпелі-б страту. Расходзіцца аб тое, што нашая хатняя жывёла паходзіць ад дзікое, каторай арганізм у працягу многіх тысяч гадоў прыстасаваўся да сярэдняй тэмпэратуры нашага клімату і ўласьцівасьць гэтую затрымаў. Для прыкладу возьмем нашых сьвіней. Як ведама, у лясох да цяперашняга часу жывуць дзікія сьвіньні ўдосыць вялікай колькасьці. Ніхто ім жадных памешканьняў не прыгатоўлівае, тым ня менш жывуць яны ў лясох летам і зімой размнажаючыся. Тэмпэратура цела сьвіні выносіць сярэдне 39°Ц бяз розьніцы на пару году.

Калі ў памешканьні холадна, то частка пашы — як ведама — зужываецца на падвышэньне цеплаты цела; апрача таго можна часта заўважыць, што жывёла корчыцца ў клубок, каб паменшыць паверхню свайго цела—гэтак **менш траціць цяпла праз праменяваньне.**

Арганізм жывёлы прызвычаіўся да сярэдняй тэмпэратуры клімату. Калі паветра моцна ахаладжываецца, то жывёла многа траціць цяпла і мусіць спажываць балей корму. Здавалася-б, што калі паветра награваецца моцна (прыкладам улетку, або штучным награваньнем

# Vychad na chutary

Vychad na chutary ŭ Polščy ŭrehulavany zakonam z 31.7.23 h. i paźniejšymi źmienami na padstavie dekretaŭ Prezydenta R. P. z 11.7.32 i 27.10.33 h., a taksama raspараdžeńniami vykanaŭčymi Min. Zieml. z 27.8.28 i z 10.10.32 h.

Da 31.12.33 h. nadzorčaj uładaj da hetych spraŭ byli Ziamielnyja Urady, a ad 1.1.34 — adpaviednyja starasty, katorym prydzieleny persanał fachovy.

Kab pačać spravu ab vychadzie na chutary (postępowanie scaleniowe), na heta patrebna zhoda haspadaroŭ, jakija razam majuć prynamsia 25 ha hruntu. U tych-ža vioskach, u jakich usiaho jość nia bolš 200 ha., — davoli, kali budzie achvotnych, jakija razam majuć choć-by tolki 1/10 čaść usiaho hruntu ŭ danaj vioscy. Ureščie byvajuć vypadki, kali ŭłada sama moža taki pierachod na chutary zahadać, biaz nijakaj inicyjatyvy z boku samych sialan. — Z druhoj starany moža być i taki vypadak, kali sialanie svaim pryhavaram užo pačatuju chutaryzacyju mohuć spynić. Inšaja reč, ci im heta apłacicca. I tamu ŭ praktycy hetyja krajnyja vypadki blizu nie zdarajucca. Prynamsia dahetul, pakul jość davoli achvotnych na chutaryzacyju dabravolnuju. A jak z hetymi končać, pryjdzie čarha i na „apornych“.

Pačatnaja prośba ab chutaryzacyju *(wniosek o wszczęcie postępowania scaleniowego)* padajecca ŭ starastva. Zapisvajucca tudy ŭsie haspadary, jakija ŭžo zhadžajucca pajšci na chutary, kolki kažy z ich maje ziamli i jakija na heta maje dakumenty. Podpisy každaha takoha haspadara pavinny być zavierany vojtam hminy. Usie hetyja prośby, piśmy i akty

хлявоў), то арганізм ня траціць цяпла, корм ёсьць выкарыстываны поўнасьцю на прырост мяса і тлушчу, на прадукцыю малака, адным словам жывёла павінна чуцца як найлепей. Дасьлед аднак гэтага не пацьвярджае ў цэласьці. Пакуль акружаючая тэмпэратура павышаецца да граніцы пэўнай сярэдняй, то жывёла чуецца добра і корм выкарыстоўвае добра. Калі аднак тэмпэратура пяройдзе гэту граніцу, то жывёла чуецца кепска. Часьць зужыванай пашы заўсёды траціцца на вытварэньне цяпла. А дзеля таго што цела траціць цяпла мала, то жывёла пачынае непакоіцца, шукае халаднейшага месца, лежачы шырака раскладае свае канчыны, каб павялічыць паверхню свайго цела і магчыма як найбольш аддаць цяпла. Жалудак і іншыя органы траўленьня кепска выкарыстоўваюць пашу, а ў рэзультаце жывёла мала прыбывае на вазе.

З вышэй сказанага вынікае, што трэба захаваць пэўную меру, гэта значыць, што ў памешканьнях для жывёлы не павінна быць ані за надта холадна, ані загорача. З двух бед надмерная гарачыня бадай ёсьць больш шкоднай, бо холад можам зраўнаважыць большаю колькасьцю пашы, а супроць вялікай гарачыні няма рады. Вынікаюць адсюль пэўныя засьцярогі для практыка, а іменна: улетку, у часе вялікай гарачыні, трэба пільна зварачываць увагу на кормных сьвіней, перадусім старшых, надта цяжкіх. Пры надмернай гарачыні нярaз здараецца, што сэрца жывёлы пачынае кепска працаваць і штука надта ўкормленая можа прапасьці. Каб гэтага ўнікнуць, сьвіньні павінны мець стала ваду да піцьця ў хляве, а хлявы не павінны быць выстаўлены на дзейнасьць сонца. Дзеля гэтага хлявы павінны мець кірунак з усходу на захад.

Паз.

# Як лячыць ад яшчура

Так ці гэтак, а небясьпека яшчура (прышчыцы) ў скаціны (і ў авечак) і ў нас становіцца што раз выразьнейшай. Аб хваробе гэтай „Самапомач" пісала ўжо летась, як толькі яшчур пачаў у нас сям-там паказвацца. Сягоньня падзелімся з чытачамі практыкай чужых лекараў, якія з гэтай хваробай спатыкаліся ўжо даўна і яе лячылі. Вот-жа спаміж розных хваробных аб'яваў яшчура найчасьцей выступаюць:

*Храманьне.* Праяўляецца яно заразжа, або па 2-х і нават па 3-ох месяцах ад часу, калі пакажуцца першыя праявы (прышчы) хваробы на сьлізістых паваloках у роце скаціны. Часам аднак ахрамее і такая скаціна, у каторай гэтых прышчаў зусім ня было. Храманьне можа мець розныя беспасярэднія пры-

---

volnyja ad usiakich hierbavych apłataŭ.

Kali na złožanuju hetak prośbu pryjdzie čarha, kamisar ziemski ci jahony zastupnik paviedamlajuć prynamsia za tydzień praz hminu (sołtys), što pryjaždžajuć na „miesnaje daznańnie": dziela pravierki padanych śpiskaŭ i varunkaŭ haspadarskich dadzienaj vioski. Prysutnaść usich zacikaŭlenych na takim schodzie vielmi važnaja, bo na im kamisar ziemski vyrašaje nia tolki spravu samych chutaroŭ, ale moža akramia taho nakinuć vioscy patrebnuju pa jaho dumcy melijoracyju, a tak-ža skasavańnie servitutaŭ, kali jany jašče hdzie zachavalisia. Chto nia źjavicca na taki schod, tracić tak-ža prava da pryrezki: majuć da hetaha prava tyja, chto maje mienš jak 3—5 ha ziamli 3-jaj klasy.

Sastaŭleny kamisaram prajekt pierachodu na chutary (wdrożenie postępowania scaleniowego) zaćviardžaje i abjaŭlaje miascovy pavietavy starasta. Niezdavolenyja z hetaha prajektu mohuć jaho ŭ praciahu dvuch tydniaŭ (ličačy ad 3-ha dnia pa apublikavańni) abžaławać u vajavodztva praz toje-ž svajo starastva. I heta abžałaba volnaja ad hierbavych apłataŭ.

Samaje scaleńnie (kamasacyju) pravodzić kamornik (gieometr), abo kazionny, abo pryvatny prysiažny, pad nadzoram ziamielnaha kamisara i hetak zvanaj kamasacyjnaj (scaleniovaj) rady, jakuju pa zahadu starasty ŭ praciahu tydnia vybirajuć z pamiž siabie pierachodziačyja na chutary sialanie. Kali-b takoj rady jany nia vybrali, dyk starastva naznačaje jaje samo. Heta rada pastanaŭlaje ab usich biahučych spravach i chłapoča ab hetych spravach prad uładami. Heta-ž rada vybiraje z pasiarod niezainteresavanych asob (čužych) dvuch siabraŭ i adnaho zastup-

чыны. Вельмі небясьпечным ёсьць храманьне з прычыны адклеенага капытнага рогу, які часта зусім звальваецца. Часам пад падэшвай творыцца асобны грубы рагавы нарост, пад каторым зьбіраецца пясок і гной, якія скаціне муляюць і перашкаджаюць у руху. Пры ўсім гэтым хворыя мясцы скаціны часта загніваюцца, у іх зьбіраецца матэрыя.

Лячэньне: увесь капыт старанна абгледзіць, зьняць непатрэбныя абламаныя кускі капыта, каб ня было шчэлінаў, у каторых затрымліваецца ўсякі гной і бруд. Падсьцілка павінна быць сухая. Усе хворыя мясцы капыта цераз дзень трэба прыпальваць плыўкім хлёркам жалеза, якім напускаюцца кусочкі чыстай ваты ці газы і закладаюцца. Каб падсусушыць хворую пятку і каронку капыта, стасуецца 3 прац. піоктаніна на сьпірце (дэнатураце).

2. Вельмі небясьпечным ёсьць запаленьне малочнай жэлязы (гручолу). Патрэбнае тут лячэньне калі не самага лекара-вэтэрынара, дык прынамся ягоны дагляд. Стасуецца пры гэтым уціраньне іхтыолевай масьці, або йшчэ лепш — кампрэс пад цырату з 5 прац. раствору іхтыолю і падвязаньне ўсяго вым'я. Вельмі добра прысьпяшае лячэньне, калі лекар стасуе пры ўсім гэтым частае прамываньне каровіных сісёк пры помачы катэтэра.

3. Высыпка на вым'і ператвараецца ў балючыя струпы, ад каторых дойнасьць скаціны ападае больш як на палавіну ў працягу некалькіх месяцаў.

Лячэньне: у хворыя мясцы двойчы ў дзень уціраецца цынкавая масьць, зьмяшаная ў роўных часьцях з масьцяй іхтыолевай. Змываць вадой, а нават наагул мачыць гэтыя прышчы ня можна. Каб дойнасьць не апала, трэба карову добра выдойваць, а калі такое выдойваньне для самай каровы вельмі балючае, дык на зьнячуленьне хворых сісёк ужываюць масьць пэркаінавую. Масьць гэта добра дзее, але яна на сягоньняшнія варункі за дарагая.

4. Пры ськіваньні, якое таксама бывае насьледкам яшчура, блізу заўсяды затрымліваецца лагво—карова ня счышчываецца.

Лячэньне: у першых трох днях па ськіваньні даецца хворай карове 2 разы ў дзень па поўкілёграма цукру— абмыўшы падхвосьце, чыстай добра натлушчанай рукой укладаюцца ў радзільную матку лёгка звогчаныя вуглікі (Carbostil—Klawe), у першы дзень 4, а ў другі і трэці — па 2. Усё гэта памагае адставаньню лагва, якое на чацьверты дзень можна пробаваць ужо выбраць. Урэшце

5. Нястраўнасьць, як пасьледак пераладаваня трыбуха.

Лячэньне: двойчы ў дзень з бутэлькі ўліваецца хворай скаціне ў перацэджаным навары (клеіку) з ляннога ся-

---

nika ŭ acenačnuju kamisiju, jakoj kiruje sam kamisar ci kamornik.

Acenka pry pierachodzie na chutary maje asablivy charaktar i kirujecca jana zakonam z 26.III.35 h. i rasparadžeńniem min. Zieml. z 16.III.35 h. Ustanaŭlajecca hetak rynačnaja cana ziamli, i akramia taho cana adnosnaja paasobnych klasaŭ, razam z ustanaŭleńniem, kolki hektaraŭ ziamli adnej klasy možna dać za 1 ha klasy inšaj, — i naadvarot.

Važnym jość ustanaŭleńnie tytułu ŭłasnaści. Tamu, kali kamornik mieryć ziamlu pavodle hranicaŭ starych, kažny ŭłaśnik musić być na svaim poli. A kali takoje apisańnie starych hranicaŭ skončycca i kamornik na padstavie jaho zrobić plan, dyk kažny ŭčaśnik chutaryzacyi ŭ praciahu 7-dzion maje prava hety plan prahledzić i pravieryć, ci jahonaja ŭłasnaść dobra pakazana jak što da abšaru, tak i što da jakaści. Hetki plan kamornika, kali niama na jaho nijakich žałabaŭ, zaćviardžaje starasta, a kali jakija žałaby jość, dyk usia sprava jdzie ŭ vajavodzkuju ziemskuju kamisiju. U hetu-ž kamisiju kirujucca i ŭsiakija žałaby ad pastanovaŭ starasty, u praciahu dvuch tydniaŭ.

Prad tym, jak sastaŭlać prajekt chutaroŭ, kamornik sklikaje schod usich zainteresavanych, kab daviedacca, chto dzie choča mieć chutar. Dla tych, što zhadžajucca pierachodzić na novaje miesca, kamornik pavinien pastaracca dać chutar u adnym kusku, a prynamsia ŭ adnym kusku pole, u druhim sienažać ci les i h. d. Dla tych-ža, što astajucca ŭ vioscy, pavinien vymieryć najpraściejšy dostup da chutaru. Fihura kažnaha chutaru pavinna nabližacca da kvadratu i nia moža być jahonaja daŭžynia ŭ 10 razoŭ bolšaja ad šyryni.

меньня па 12 грамаў эмэтыку. Гэткіх парашкоў трэба даць чатыры (нараніцы і ўвечары). Акрамя гэтага стасуюцца леватывы (раз або і два разы ў дзень) з 5-цёх літраў летняй вады з 2 шклянкамі кухоннай солі, з дадаткам дзьвюх шклянак клеіку і 2 шклянак напару з поўпачкі махоркі. Акрамя таго добра ўплывае: двойчы ў дзень спацыр (па 30 мінут) і націсканьне на трыбух (у левай пахвіне) 6—8 разоў у дзень па 15 мінут. Дасьпелая скаціна дастае ўдоваль вады. Праз першыя 36 гадзінаў—дыета галадовая, пасьля, як зьявіцца жвачка, ступянёвы пераход да пашы нармальнай.



# Жыўленьне сьвіней жытам

Дзякуючы добраму ўраджаю, так у нас, як і заграніцай, цэны збожа ёсьць вельмі нізкія, не пакрываюць нават коштаў прадукцыі. Палажэньне земляроба ў нас тым горшае, што прадукуем вельмі многа жыта (52 прац. збажовай прадукцыі), каторае заграніцай на пажыў для людзей мала ўпатрабляецца і дзеля гэтага ёсьць танейшае ад пшаніцы. У цяперашнім часе жыта зьяўляецца найтанейшым, а продаж яго дае чыстую страту. Паўстае пытаньне, ці ня было-б карысьней збыць збожа якім кольвек іншым спосабам. У нашых варунках найадпавяднейшым будзе скармляньне жыта сьвіньмі.

У нас галоўным кормам для сьвіньні ёсьць бульба. Паша гэта ёсьць вельмі добрая, але нявыгода ёсьць тая, што бульба ў сабе мае вельмі мала бялка. У 1 кл. бульбы знаходзіцца толькі 9 грам бялка. А дзеля таго, што кабан важучы 100 кілё патрабуе дзенна каля 270 грам бялка, а каб гэта атрымаць—трэба было-б скарміць аднэй штукай 30 кілё бульбы дзенна, г. зн. больш, чым карове ці каню. Разумеецца, жалудак вяпрука ня мог-бы памясьціць і ператравіць так вялікай колькасьці бульбы і дзеля таго даецца звычайна значна менш. Ня трэба даказываць, што меншай колькасьці даванай бульбы бялка будзе за

---

Prajekt chutaroŭ kamornik vyznačaje na poli i pakazvaje zacikaŭlenym. I ŭznoŭ pa paviedamleńni 7 dzion napierad pryjaždžaje kamisar, kab daviedacca, što ab prajekcie dumajuć učaśniki. Usie na hetkim schodzie pavinny być. A kaho niama, toj zhary ŭvažajecca, što hety prajekt pryjmaje. Taksama ŭvažajecca za pryniaŭšaha prajekt i toj, chto ŭ prysutnaści kamisara pad adpaviednaj pastanovaj raśpišycca. Hetak sastaŭleny prajekt chutaroŭ paćviardžaje starasta. Abžałavać hety prajekt možna ŭ vajavodzkuju ziemskuju kamisiju. Pastanovy kamisii možna ŭ 2 miesiacy za pasiarednictvam advakata abžałavać ŭ Administracyjny Trybunał. Z mamentam pieradačy novych chutaroŭ i ŭrehulavańniem hipoteki kančajecca postup chutaryzacyi, jak na hruncie, tak i praŭna.

Košty pieravodu na chutary ad 18 da 35 zł. ad hektara. Spłačvajucca jany biez apracentavańnia, hadavymi častkami, praz piać hadoŭ. U časie-ž samaha pierachodu sialanie musiać dać: pamiaščeńnie na kancelaryju i žyćcio dla kamornika, apał, śviatło, furmanki, rabotnikaŭ.

Urešcie skamasavanyja hrunty, kali ŭčaśniki ich nia byli zvolnienyja ad pakryćcia koštaŭ, dyk zvalniajucca na try hady ad padatku hruntovaha.

Pracy nad pierachodam na chutary zvyčajna pačynajucca viasnoj i narmalna (da 500 ha) kančajucca za hod, tak što haspadary ŭ nastupnym hodzie siejuć aziminu ŭžo na chutarach nova prydzielenych.

**Inž. I. Ł.**

мала і кабан ня будзе так хутка сыцець. З гэтай прычыны трэба апрача бульбы даваць сьвіньням яшчэ гэтак званую пашу загушчаную, каторая карысьнейшая, бо пры меншым сваім абыйме, мае ў сабе многа бялка. Загушчаная паша багатая ў бялко. Гатункаў ёсьць шмат. Можна вылічыць тут такія, як мука мясная, касьцянна-мясная, рознаякае збожа, малако і т. п. Але муку гэтую трэба купляць, яна даволі дарагая, а земляроб пераважна грошаў ня мае. З гэтай прычыны трэба зьвярнуць увагу і належна выкарыстаць бялок нашага збожа. Пшаніца занадта дарагая, але авёс, ячмень (кармавы) і жыта ў поўнасьці да гэтага будуць прыдатны. Трэба пры гэтым зьвярнуць увагу, што 1 клгр. аўса мае ў сабе сярэдне 77 грам бялка, ячмень— 65 грам, а жыта 91 грам. Гэта азначае, што сярод нашага збожа жыта мае ў сабе найбольш бялка, а таму, што ёсьць яно найтанейшае, то пры жыўленьні сьвіней на жыта перад усім трэба зьвярнуць увагу. У нашых абставінах жыта побач з бульбай павінна быць падставай пры гадоўлі сьвіней, празначаных на ўбой, бо бялок у жыце выпадае найтаней.

Досьлед сьцьвярджае, што найадпавяднейшыя і найлепшыя дае вынікі корм мяшаны. З гэтага поваду пажаданым ёсьць даваць ня выключна жыта, але таксама і іншае збожа — ячмень, авёс. Вельмі добрая будзе мешанка, у каторай на 10 частак прыпадае 4 част. жыта, 3 част. аўса і 3 част. ячменю. Ад мяшанкі таннай жывёла хутка расьце і добра правіцца.

Апроч збожа, добрым дадаткам да корму зьяўляецца худое (поснае) малако, атрыманае з пад цэнтрагонкі. Пры жыўленьні сьвіней такое малако можа адыграць вялікую ролю, бо мае ў сабе многа зьвярынага бялка, дзеючы апроч таго карысна на здароўе.

Аблічана, што штука вагой 100 кл. павінна атрымліваць дзенна: бульбы 5 кілё, мяшаніны збажовай 1 з палавінай кілё, худога малака 3 кілё і каля 20 грам шлямаванай крэйды. Пры такім жыўленьні кошт выпрадукаваньня 1 кілёграма жывой вагі выносіць 55 – 60 грашоў. Ня трудна пераканацца, што збожа перарobленае на мяса можа быць прадана значна даражэй, чым у форме зярна.

На магчымасьць скармляньня жыта сьвіньмі земляроб наш павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу дзеля таго, што ў гэтым выпадку прадае жыта шмат даражэй, чымсь прадаючы безпасярэдна як зерне — і не патрабуе масава вывозіць на рынак. Гэта азначае, што дзякуючы таму даплыў збожа на рынак будзе меншы, што прычыніцца да паправы цаны на яго.

У гады добрага ўраджаю, калі з прычыны вялікага даплыву збожа на рынак цэны вельмі ападаюць на яго, скармляньне жыта сьвіньмі мае вялізарнае значэньне.

**Паз.**

# Як выбіраць добрую карову

Як-ні-як, а добрая карова ў гаспадарцы, гэта скарб — скарб тым большы, чым сама гаспадарка бяднейшая, меншая. Дзеля таго на месцы будзе затрымацца тут пакрысе над прыметамі добрае каровы. Зробім гэта так, як робяць практычныя гаспадары, якія стараюцца купіць сабе карову на ўласнасьць.

Перш за ўсё карову, як і ўсякую іншую жывёлу, найлепш купляць ад людзей знаёмых. Гэта аплаціцца нават тады, калі-б прыйшлося якую залатоўку заплаціць больш. Калі-ж такога выпадку не надарыцца, дык трудная рада трэба йсьці на рынак.

На рынку — першая рэч — гэта ня слухаць таго, што гавора прадавец, а аб усім пераканацца асабіста. Па спраўджаньні каровінага „пашпарту," трэба прыступіць да агляду самай каровы ў цэласьці і паасобных ейных прыметаў. Памятаць пры гэтым трэба, што тая толькі карова ёсьць сапраўды добрай, у якой знайсьці можна ўсе свомасьці (прыметы), а ня тая, якая адны такія свомасьці мае, а іншых або зусім ня мае, або яны адпаведна не разьвіты.

Якія-ж свомасьці добрай каровы?

Перад усім агульнае здароўе. Пераравясьці карову па роўным месцы і паглядзець, ці не храмае, а калі храмае, дык чаму: абгледзіць капыты! Далей, разявіць карову, каб даведацца, ці не калытаюцца зубы і ці не паранены язык. Прыпомніць тут варта, што пярэдніх зубоў (секачоў) мае карова восем і ўсе яны ў дольняй ськівіцы. Старасьць

каровы пазнаецца паводле рубцоў на рагох: колькі гэтых рубцоў, гэтулькі разоў карова цялілася.

Да племнай гадоўлі прыдатная толькі карова цалком здаровая, перад усім-жа вольная ад нахілу да сухотаў. Азнакай-жа гэтай небясьпекі ёсьць гузаватасьць вым'я, асабліва задняй яго-най часьці, і тэмпэратура паднятая вышэй 39.5°Ц. Небясьпечныя так-жа вытокі з радзільных органаў, бо такая карова звычайна не заплодніцца. Урэшце, небясьпечна і гузаватасьць на ськівіцах— у гэтых гузох з часам зьбіраецца матэрыя (гнойная) і карову прыходзіцца рэзаць.

Урэшце самыя азнакі дойнасьці каровы. Добрая дойка перад усім, як кажуць, павінна мець тып выразна самчы, гэта знача такая карова не павінна выглядаць на вала. Галава ейная павінна быць падаўгаватая, сухая, вока вялікае, сухое, лёгкія рогі. Шыя павінна быць доўгая, але вузкая і без вальля. Увесь корпус (цела) доўгі, касьцяк ня грубы. Скура павінна быць тонкая, гібкая, на шыі дробна паморшчаная. Поўсьць па ўсім целе павінна быць мяккая, гладкая, бліскучая і моцна прылягаць да скуры.

Вым'я — гэта каровін капітал. Найлепш пазнаць яго выдаіўшы малако. Благое вым'я „клустае", благое і гузаватае: яно павінна быць у меру пружнае, з добра разьвітымі малочнымі залозамі (гручоламі). Даіць карову на месцы трэба йшчэ і дзеля іншых прычын: каб даведацца, ці ўсе сіські дояць і ці яны не балючыя. Калі-ж трэба сьцьвердзіць, ці карова цельная ці не, дык здойваюць яе і каплю малака ўзятую на саломінку страсаюць у шклянку з чыстай вадой: малако ад каровы няцельнай распусьціцца ў вадзе, а калі карова цельная, дык такая капля малака ападзе, блізу не распусьціўшыся, аж на дно. *С. Я.*

---

*ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

---

# Груда на конскіх нагах

Груда на конскіх нагах гэта доказ карыгоднае нядбаласьці гаспадара аб чыстату. Коратка кажучы, паўстае яна ў коняў таксама, як на людзкіх нагах улетку „сеецца сьвірэпка". Часта бывае гэта асабліва ў пару восеньскіх і вясьняных растопаў, асабліва калі да таго йшчэ і ў хляве замест сухога, чыстага стойла, чакае каня мокры гной.

Так ці гэтак загнежджаная груда можа быць трох гатункаў: найлягчэйшая груда — калі яшчэ няма ранаў, а толькі скура над задняй часьцю капыта нязначна зачырванела. У такім выпадку даволі такое месца старанна абмыць мешанінай сьпірту з алівай*), памазаць цынкавай масьцю, абложыць газай і завязаць. Калі-б было трэба, можна гэткі захад яшчэ паўтарыць.

Горш, калі на назе патвараецца ўжо раны. Тады першай работай ёсьць ачышчэньне хворага месца ад балота і наагул усякага бруду і струпоў. Такое месца старанна мыецца ў летняй вадзе з гліцэрынавым мылам. Вымытую нагу асушваюць спачатку чыстай тканінай, а пасьля ватай. Сухую і чыстую хворую нагу (хворае месца) прамываюць успомненай мешанінай сьпірту з алівай, а пасьля лякарствам гэткага складу: 2 гр. іодаформу, 4 гр. іоду, 7 гр. хлёраформу і 30 гр. гліцэрыны. Гэтак нацёртую нагу прыкрываюць ватай і абвязваюць. Паўтараць гэта трэба штодзень, аж да поўнага вылячэньня. Да змываньня раны ўжываць трэба толькі ўспомненай мешаніны сьпірту з алівай. Вады больш як раз (на пачатку) ужываць да гэтага ня можна, бо яна дражніць. — Лечанага каня заўсяды трэба трымаць у суху (ногі). Да працы ўжываць ня можна.

Калі-б з груды патварыліся гнойныя (ропныя) раны, дык лячыць іх можа толькі лекар-вэтэрынар.

*іч.*

---

*) Сьпірт з алівай (2 часьці на адну) ня лучыцца і таму за кажным разам гэту мешаніну трэба старанна ўстрасаць і разьмяшаць.

# Коні для войска

У нас з гадоўлі коняў здаўна слыве Ашмяншчына. Гэта ня знача аднак, каб у іншых мясцох коняў зусім не гадавалі, або што ў Ашмяншчыне кожны конь ёсьць добры. Зусім не. Праўдай аднак ёсьць тое, што для гадоўлі коняў вялікай успамогай ёсьць дастава для войска гэтак званых рэмонтаў (коняў здольных да тэй ці іншай службы ў войску). І тут як раз трэба адзначыць, як часта здараюцца непаразумленьні, на каторых церпіць як раз найслабшы гадавальнік каня; церпіць з тае простае прычыны, што ня ведае, чаго вымагаюць ад яго рэмонтныя камісіі, што яны ў каня цэняць высака, а што лічаць яму за недастатак. Тут найчасьцейшая бяда і аб гэтым хочам тут крыху пагутарыць.

Хочучы прадаваць рэмонтнай камісіі, трэба гэтага каня адпаведна **прыгатаваць**. Не гаворачы ўжо аб уменьні падбору да гадоўлі адпаведняга матар'ялу (жарабяці) і належнага з ім праз увесь час абходжаньня, за месяц больш-менш прад „наборам" трэба з гэтым канём прарабіць гэткае прыгатаваньне:

1. Навучыць каня проста хадзіць шагам і рысьсю пры руцэ, напачатак найлепш уздоўж нейкага плоту, або на выразнай сьцежцы. Вядучы гэтак каня, ня трэба на яго глядзець. Трымаць каня пры гэтым трэба коратка за вуздэчку, але самую галаву каня трэба трымаць высака. Конь адчувае — калі чалавек на яго глядзіць і найчасьцей ня хоча йсьці наперад.

2. Тым больш трэба асвоіць каня з тым, каб не баяўся йсьці проста і адважна сярод грамады людзей чужых яму і нязнаных. Найлепш пачынаць такое навучаньне ад выводжэньня каня ў роўнае поле, каб крыху выгуляўся. А пасьля, калі там ужо ўходзіцца, можна пачаць завучываньне ходу праз сяло, каля фурманак і людзей — усё гэта, натуральна, з захаваньнем усіх асьцярожнасьцяў.

Гэта толькі такія, здавалася-б, агульныя і кожнаму ведамыя рэчы. А аднак якраз дзеля таго, што яны „ведамыя", дзеля гэтага якраз аб іх мала хто хлапоціцца. А ў рэзультаце найлепш выгадаваны конь ідзе ў брак. Вінаваціць за гэта ня можна нікога іншага, як самога толькі гаспадара-гадавальніка.

А на астатак яшчэ адна перасьцярога: мыляецца той, хто думае, што папраўіць каня можна самым толькі кормам, напр. аўсом. Так, аўсом можна каня раскарміць. Але ня кожнага. Гэта раз, а далей, практычнае вока рэмонт'ера (таго, хто набірае рэмонты) адразу падазрае, што тут аўсом закрываюцца нейкія недахопы ў будове самога каня. Дзеля таго лепш адразу зьвярнуць увагу, ці такі конь мае моцны хрыбёт, ці добра павязаны, якія мае ногі, капыты і ці ня мае якіх-небудзь недахопаў пераходных, як розныя сустаўныя пухліны, золзы і г. д. Калі здарыцца штосьці такое, лепш перачакаць да наступнага рэмонту, бо камісія ніколі не павера, што нейкі там недастак хутчэй ці пазьней міне, але заўсяды будзе глядзець і цаніць тое, што ўжо ёсьць. Урэшце лішнім было-б дадаваць, што прыводжаны да рэмонту („на камісію") конь павінен быць найстараньней вычышчаны і то, як кажуць, „ад вушэй да капытоў", не абмінаючы пры гэтым ні зубоў, хваста ці грывы. — Добрая вуздэчка з моцным повадам і кантар таксама мусяць быць напагатове.

# Зьмены ў судовай працэдуры

Паводле новаабвешчанага дэкрэту Прэзыдэнта П. Р., заводзяцца некаторыя зьмены ў судовай працэдуры, як карнай так і цывільнай. Агульны кірунак гэтых зьменаў ідзе да таго, каб пашырыць здольнасьць Гарадзкіх Судоў у разглядзе справаў, якіх вартасьць не перавышае 2.000 зл. (дагэтуль было 1.000 зл.), уключаючы ў гэтыя рамы і справы аб найме і арэндзе — дагэтуль справы найму і арэнды падлягалі Гарадзкім Судом заўсяды, не зважаючы на тое, якую вартасьць мела спорная справа. Новы дэкрэт пазваляе так-жа ўносіць раней жалабу аб адабраньні ці выданьні прадмету найму ці арэнды ў тэрміне, калі гэта арэнда канчаецца. — Важна так-жа, што экзэкуцыя (сьцягіваньне належнасьці) проціў супольнага ўласьніка нейкай нярухомасьці можа быць пачата толькі тады, калі часьць маемасьці гэтага ўласьніка ўжо не абцяжана нейкімі даўгамі разам з часьцямі іншых уласьнікаў гэтае самае супольнае нярухомасьці. Урэшце дэкрэт гэты ўстанаўляе, што касацыю можна ў судох агульных падаваць толькі тады, калі прадмет спору вышэйшы як 1.500зл.(дагэтуль было 500 зл.), а ў судох працы 500 зл. (дагэтуль было 300 зл.).

# БРАВАРЫ

Усе, хто памятаюць у нас часы прадваенныя, ведаюць, што на прасторы сяньняшняй Віленшчыны і Наваградчыны існавалі і працавалі цэлыя соткі(!) бравароў. Была з гэтага карысьць уласьнікам бравароў, карысталі з гэтага і сяляне з ваколіцаў, якія мелі збыт на бульбу і цэнныя адпадкі з фабрыкацыі сьпірту. А сягоньня? Статыстыка налічвае ў Віленшчыне 25 бравароў, а ў Наваградчыне—26. Дзе рэшта? Або зьнішчаны вайной, або ня могуць працаваць з прычыны перабудовы нашага сяла. Блізу ўсе гэтыя бравары ў нас былі і ёсьць у памешчыцкіх дварох ці іншых вялікіх гаспадарках. Вялікая часьць іх за апошні час пайшла з малатка, шмат іх распарцэлявана, шмат сёлаў разьбіта на хутары. А ўсё гэта мае рашучы ўплыў на тое, ці бровар мае далей існаваць ці не. Зьяўляецца цяпер пытаньне, ці-ж бравары могуць існаваць толькі як маемасьць вялікіх земляўласьнікаў, ці можа такія бравары могуць вясьці і самыя дробныя сяляне, злучаныя ў адумысныя супалкі ці коопэратывы? Прыклады з культурных краёў паказваюць, што такія коопэратыўныя бравары існаваць і працаваць могуць. Даволі ўспомніць,што ў такой напр. Чэхаславаччыне 40% усіх бравароў гэта бравары коопэратыўныя.

Але вернемся да справаў бліжэйшых. Сягоньня на рынку за асьміну бульбы дастаць можна з трудам 2 зл., а гэта-ж самая асьміна бульбы пераробленая на сьпірт, па адлічэньні ўсіх коштаў вырабу, прыносіць лёгка 3 зл. (тры). Да гэтага-ж даходзяць яшчэ такія карысьці, як сытны корм з адпадкаў для жывёлы, што дае магчымасьць падняць жывёлагадоўлю наагул, а ўсьлед за гэтым, пры лепшым угнаеньні, і ўсю гаспадарку. Знача ёсьць і ў нас вырахаваньне пераганяць бульбу на сьпірт.

Прыглядзьмася-ж цяпер, якія варункі мусяць быць, каб бровар можна было залажыць і мець з яго карысьць. Бярэм па парадку. Бровар мае будучыню там:

1. дзе бульбы больш родзіць, чым яе можна на месцы так ці гэтак скарміць,

2. дзе ёсьць пад бульбу добрая зямля,

3. дзе людзі ўмеюць ужо разам працаваць,

4. дзе даволі ёсьць добрай вады (гэта вельмі важна!),

5. дзе можна сабраць капітал паевы і дастаць выгодную пазычку*),

6. дзе знайдуцца добрыя майстры, добрае і разумна ўплянаванае памяшчэньне і ўсе тэхнічныя прылады.

Коопэратыўныя бравары закладаюцца па статутах падобных да статутаў коопэратыўных малачарняў, толькі замест кароў лічацца гэктары зямлі: за кожныя пяць гэктараў бярэцца адзін пай, з тым аднак, што адзін сябра ня можа мець больш, як 35 паёў. Залежна ад колькасьці ўложаных паёў, кожны сябра мае права даваць да пераробкі адпаведную колькасьць бульбы. Статут гэткі павінен на пачатак быць падпісаны 15-цьма сябрамі і прадстаўлены ў Рэвізыйны Саюз дзеля пасьведчаньня, што бровар у дадзеным месцы патрэбны і можа разьвівацца. З гэтым пасьведчаньнем статут падаецца да рэестрацыі ў адпаведны суд. Пасьля гэтага толькі можна ад управы акцызу і манаполяў дамагацца дазволу на будаваньне бровару і з гэтым толькі дазволам, з далучэньнем падробна апрацаванага каштарысу, можна зварачвацца ў Зямельны Банк па пазыку.

Урэшце для агульнай інфармацыі трэба ведаць, што аплатнасьць бровару залежа ад гатунку бульбы (больш ці менш крахмальнай): з 100 клг. бульбы можна выгнаць 8, але можна выгнаць і 12 літраў сьпірту. — Колькі сьпірту можа бровар вырабляць у год, залежа ад пастановы Казённага Манаполю (прыдзел ці контынгент), які пасьля выраблены сьпірт забірае. Гэткае рэгуляваньне вырабу адбываецца раз на тры гады. Летась (1938 г.) Манаполь плаціў бравaром па 74 грашы за літр сьпірту.

Браварніцтва мае ў нас будучыню дзеля таго, што ўзрастае запатрэбаваньне на сьпірт дзеля вырабу сьпірта—бэнзынавых мяшанак да аўтамабіляў і дзеля вырабу штучнага каўчука. Усяго ў Польшчы сягоньня працуе 1400 бравароў (коопэратыўных толькі 43!), а рахуюць, што можа яшчэ паўстаць 150. Каб-жа толькі больш іх паўстала ў нас, дзе маем усе варункі да прадукаваньня сырца—бульбы. Дагэтуль паўсталі ў Віленшчыне толькі два кооп. бравары: у Шэметаве і ў Падбродзьдзі. *Ш. Ш.*

*) Міністэрства Земляробства праз Зямельны Банк урухоміла на гэту мэту доўгасрочны танны крэдыт (па паўтара прац.).

Pierasyłka apłačana ryčałtam



# Гаспадарская хроніка

**Районізацыя гадоўлі.** Закон аб гадоўлі прадбачыць наказ гадаваць у пэўных вокругах той а ня іншы гатунак жывёлы. Згодна з гэтым законам ва ўсей Віленшчыне і Наваградчыне—прастор Віленскае Земляробскае Палаты— наказана гадаваць авечкі расы верасавай і раманаўскай. Хто хоча мець (купіць) бугаёў гэтай расы, той павінен да 1.III.39 запісацца ў Віл. Земл. Палаце: Вільня, Ахвярная вул. № 2. — Районізацыя скаціны йшчэ не праведзена ўсюды. Анагдай (6.XII.38) пастаноўлена было між іншым, што гміны: Мэйшагола, Ржэша, Рудоміна, Трокі і Малыя Салечнікі будуць залічаны ў район скаціны нізіннай, чорна-белай.

У гэтак устаноўленых районах іншую як наказаную расу жывёлы можа гадаваць толькі той, хто сам можа ўтрымаць для сваей жывёлы асобнага расплодніка, за каторага павінен плаціць асобны падатак і каторага ня сьмее нікому пазычаць.

**Кірмашы на сьвіней** адбываюцца ў Куранцы (пад Вялейкай) у кожны аўторак. Ёсьць гэта найбольшыя кірмашы ў сваім родзе. Звозяць сюды сяляне тавар і з суседніх паветаў, як Маладэчанскі, Пастаўскі і нават Дзісенскі.

**Коопэратыва «Воўна» ў Гальшанах** сарганізавалася ў канцы мін. году. Мае яна за заданьне скупліваць воўну, перапрацовываць яе (часаць, прасьці) і прадаваць на крэдыт сваім сябром, якія вырабляюць рукавіцы, сьвэтры і інш. работы.

**Нашы грыбы — ў Амэрыку.** За м-ц лістапад мін. г. з абшару Віленшчыны і Наваградчыны вывезена было каля 7.975 кілеграмаў сушаных грыбоў (у кастрычніку 8.940 клг.). Найбольш нашых грыбоў ідзе ў Амэрыку, менш у Нямеччыну і ў Францыю.

**Коні для войска** буцуць купляць у Ашмяне 24 сакавіка. Купляць будуць легчаных коняў і кабыл: а) пад конную язду I і II кат. ад 146 см. росту ў веку ад 3 да 6 гадоў па цане 800—2000 зл.; 2. для лёгкай артылерыі, ростам ад 151 см. у веку 3—6 гадоў па цане 800—950 зл.; 3. для артылерыі абніжаны, ростам ад 145 см., у веку 4—6 гадоў па цане 550—850 зл. — Незалежна ад цаны, за добрую гадоўлю маюць плаціць прэмію па 100 зл.

**Дровы за дарагія—топяць вуглем.** Цэны на дровы ўсьцяж падыймаюцца і таму вуглем сягоньня топяць у нас ужо ня толькі ў гарадох, але і пачынаюць гэта рабіць і па сёлах. Доказам гэтага ёсьць, што Глыбоцкі район ужо да Новага 1939 г. спатрабаваў аж 60 вагонаў вугля.

**Недабор 115 міл. зл.** выказвае гандлёвы білянс Польшчы за 1938 г. Найбольшы недабор—больш куплялі як прадавалі — быў у гандлі з Нямеччынай, Чэха-Славаччынай, Бэльгіяй і Саветамі.

**Лес—у Літву, лён—у Англію.** У зьвязку з гандлёвым дагаворам з Літвой, 90.000 $м^3$ дрэва з Віленшчыны і Наваградчыны, на агульную суму каля 3 міл. зл., мае быць прададзена ў Літву. Сплаў гэтага тавару па Нёмне ў Клайпэду мае пачацца адразу, як толькі пройдзе лёд. — Англія-ж моцна зацікавілася нашым лёнам, бо Саветы, якія дагэтуль пакрывалі аж 91 прац. запатрэбаваньня Англіі на лён, цяпер раптам устрымалі свой вываз. —У 1938 г. Польшч вывезла ў Англію лёну за 19 міл. злотаў.

„Самапомач" выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Redaktor K. CZERTOWICZ
Рэдактар К. ЧЭРТОВІЧ
Wydawca: „BIEŁPRES"
Выдавец: „БЕЛПРЭС"
Białoruska Drukarnia im. Fr. Skaryny w Wilnie: Zawalna 1.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.

BЕЛАРУСКАЯ ЗЕМЛЯРОБСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

№ 5

# ЧАГО ПАТРАБУЕ ЗЯМЛЯ

**Кароткае выясьненьне дзеля навукі маладым гаспадаром аб угнойваньні**

**напісаў**

**ВАСІЛЬ САЗАНСКІ**

**аграном**

*Зьбеларушчыў А. К.*



*Бясплатны дадатак да „Самапомачы“.*

ВІЛЬНЯ — — — — — — — — 1939.

# Зімовы гаспадарскі курс дома

## Угнойваньне

Узімку можа гаспадар засесьці да кніжкі. Тады й старое й малое гавора доўгімі вечарамі аб усім, ды кажнаму цікава пачуць штосьці новага, добрага, карыснага. А што ёсьць карыснае, тое й кажнага найбольш цікавіць, бо ведама, што на сяле недастатак. Месячнай пэнсіі (так як чыноўнікі) сяляне не дастаюць, аб селяніне ніхто не пахлапоціцца, ніхто яго ня спытае «што ты сягоньня еў?», а ўсякі, дзе толькі можа, тузае яго за сьвітку. Таму штосьці дай, другому танна прадай, іншага дарма падвязі, а йшчэ каму іншаму дорага за вопратку заплаці. Усё на гаспадара валіцца, быццам нейкая напасьць, і кажны лезе на тую крошку зямлі, быццам на сваё. Калі-б гэта зямля йшчэ ды хоць добра радзіла, дык было-б паўбяды. І сам чалавек добра наеўся-б і другім адчэпнага даў-бы. А тут, як на злосьць, усё наадварот. Чалавек думае на 20 пудоў, а зьбярэ 5. І няведама, што з гэтым рабіць? Ці прадаваць, ці паміж дзяцей падзяліць. Да Калядаў яшчэ неяк круціцца хлябок у хаце, а па Калядах няшчасная бязхлебіца абавязкава ўзноў прыйдзе ў сяло. І так з дня на дзень, з году ў год, аж абрыдзіла. Цікава было-б кажнаму ведаць, як з гэтага ліхалецьця вылезьці і дайсьці да лепшага жыцьця. Не адзін паслухаў-бы рад гэтай навукі, калі-б у сяле быў хтось, хто аб усім гэтым расказаў-бы, з людзьмі пагутарыў, патлакаваў. Бяда, што ў нас мала вучаных гаспадароў, якіх называюць аграномамі. Чуць адзін на павет (і то не на кажны) знойдзецца, а тут трэба было-б

аднаго ў кажнае сяло і на цэлую зіму. Трэба яго было-б на зімовы гаспадарскі курс, на якім вучылі-б гаспадароў, як хадзіць каля зямлі, чым яе гнаіць, якім зернем засяваць, як гадаваць жывёлу, чым лячыць, як купляць на рынку, па чым пазнаць малочнасьць і інш. А гаспадыням яшчэ больш трэба пачуць аб гэтым, як гаспадаром. Ім і малако часта псуецца, і куры гінуць, і хлеб не ўдаецца, і ўсё чагось не хапае, а найбольш — парады.

Бывала ня раз, падчас такіх зімовых курсаў, просяць мяне людзі, каб ім усё гэта, што было гаворана, сьпісаць, бо памяць іхняя ня здольна ўсяго за раз абняць. Ня раз — кажуць яны — заглянуў-бы чалавек у кніжку, прыпомніў-бы сабе ўсё гэта ды й не адно добрае завёў-бы ў гаспадарцы. А так, паслухаеш, пацешышся і забудзешся. Таму вось і пішу я ўсё гэта на паперы, каб тыя, якія ня чулі яшчэ гаспадарскіх курсаў, каб зналі, колькі ў нас трэба йшчэ напхаць навукі, каб на сяле быў дабрабыт ды каб гаспадар з усяго меў карысьць вялікую, а ня тую дробна-малюсенькую.

## Чаму ў нас на сяле бяда?

Праўды не схаваеш, калі-б нашы гаспадары мелі прынамся валоку-дзьвве зямлі, дык жыцьцё на сяле было-б лепшым. Было-б тады ўсяго ўдоваль і ніколі ня было-б недастатку ні хлеба, ні граша. На жаль, нашы дзяды і прадзеды ўміраючы дзялілі ўсю зямлю між дзяцей і цяпер дайшло да таго, што часта такі гаспадар мае ўсяго якія 2—3 дзесяціны.

Аб гаспадарскіх школах ніхто ў нас не стараўся, а некаторыя бацькі нават так нядбайліва глядзелі на дзяцей, што ня пускалі іх нават у пачатковую школу. Нявграматны хлапец браўся за плуг і араў ды сеяў так, як навучыўся ад свайго бацькі. А бацька, ведама, меў больш зямлі, дык і ня дбаў над-

та аб кажную лапіну поля. Як вылягала, бывала, збожа на аднэй ніўцы, дык было добрае йшчэ на 5-цёх іншых. І ня было йшчэ бяды. Прадзед як ня меў чым поля пагнаіць, пакідаў яго праз год пад папарам і ўзноў зьбіраў добры ўраджай, а каб араць глыбака і прыдаваць штучных гнаёў, аб гэтым ніхто ніколі і ня чуў, бо было што есьці і ня было недастатку.

Калі-ж ніўка сталася вузейшай, дык дзеці мусяць брацца да гаспадаркі зусім інакш і рабіць так, каб з малой лапіны сабраць гэтулькі, колькі дзед зьбіраў з вялікага куска.

Кажную пядзю зямлі трэба разумна абрабіць, і разумна пагнаіць, разумна засеяць, а як у хаце здарыцца які выпадак, напр. захварэе якаясь жывёла, трэба зараз самому яе разумна лячыць. А то бывае ня раз так, карове забаліць у кішках ад сапсаванай сечкі, а няграматны гаспадар пхае ёй у хрыбёт шыла, або сольлю засыпае вочы. Дзе-ж тут розум?! Ці можа такі гаспадар мець карысьць з жывёлы? Ці яна яму ад гэтага шыла будзе даваць удзень 20 літраў малака? Не!

Гэткі гаспадар сапсуе нават найлепшую малочніцу, бо ён не разумее, што жывёла патрабуе чыстаты, добрай пажыўнай пашы і лагоднага абходжаньня. Дзед і прадзед маглі ня дбаць і ўсяго не разумець, але дробныя ўласьнікі зямлі павінны знаць, як у кажным выпадку сабе парадзіць, бо гэта малая сьціба і жывёла — гэта-ж іхні прыяцель, які трымае іх пры жыцьцю. Ня будзь таго, трэба гінуць з голаду. Знача, на сяле вялікая цемната і таму трэба *як найбольш пашыраць гаспадарскую навуку.*

Яшчэ адно вялікае зло ёсьць у нас на сяле, якое рэдка хто ўгледзіць. Гэты *вялікі вораг* — гэта *пасярэднік.*

Ён так хараша называецца, што нікому й на думку ня прыйдзе, каб ён быў гэткі страшны—злы.

А вот зараз яго намалюем. Ён сядзіць сабе цэлае лета пад хатаю, нічога ня робіць, толькі чытае газэту (часапіс). У той час, як гаспадар цяжка працуе сярпом, ён у халадку вылежваецца, выцягваецца, як кот, ды просіць дажджу, каб яму не дакучаў пыл з дарогі. Тое, што гаспадару замокне хлеб, гэта для яго нічога; на сьвята загадае напячы беленькіх булачак, зарэжа добрага, сытага пятуха і папасывае сабе брушка. Калі-ж увосені спатрэбіцца гаспадару грош і вывезе на кірмаш сваю працу, тады пасярэднік хапаецца за селянінаву сьвітку, быццам леў зубамі, і не папусьціць яе, пакуль ня выдзярэ з мазалістых рук цэлагодняга плоду працы. Ён так абматае сялянскую душу, што з заработку сьцягне яму ня толькі добры для сябе харч, але зможа йшчэ за гэныя грошы паставіць харошую каменіцу і пасылаць сваіх дзяцей у школу. А мужыку ўсё не хапае, бо ён працаю сваею дзеліцца з другімі.

Каб гэтага ня было, трэба так рабіць, каб кажны гаспадар быў ня толькі гаспадаром, але й гандляром.

Трэба на супалку закладаць крамы і ў іх прадаваць усё сваё дабро; але і ўсё, што да хаты патрэбна, трэба купляць у гэтай-жа краме.

Гэткія супалкавыя крамы ня гоняцца за заработкам, а тым, хто ў такой краме працуюць, даюць толькі невялічкую вынагароду. Крамы гэткія называюцца коопэратывамі.

Шмат дзе ў нас ёсьць ужо коопэратывы, якія прадаюць спажывецкія тавары, але гэтага йшчэ мала. Нам трэба як найхутчэй закладаць такія коопэратывы, якія перапрадавалі-б жывёлу, сьвіні, яйкі, збожа, гародніну і ўсё іншае, што толькі гаспадар мае на збыт. Тады ўвесь зыск астанецца ў руках гаспадара і ня трэба будзе траціць дарагога часу на продаж у месьце. З супольнага зыску будуць магчы гаспадары ўтрымаць свае прамысловыя шко-

лы і ня трэба будзе тады зямлі дзяліць, бо дзеці змогуць вывучыцца рамясла і працаваць на сваіх варстатах.

А тыя, што астануцца на зямлі, будуць добра гаспадарыць, бо знаць будуць, чаго зямля й жывёла патрабуе, а што ей шкодзіць.

## Чаго патрабуе зямля, каб добра радзіла?

Праўду кажучы, дык зямля не патрабуе ад нас нічога, бо яна есьці ня хоча. Зямля зямлёй была, ёсьць і будзе. Гэта расьліны патрабуюць ад яе добрай спажывы, бо яны жывуць і растуць. Знаемо-ж добра, што калі нешта расьце, дык мусіць дыхаць і есьці, дык яна хоць дыхаць мае чым (бо паветра кругом даволі), аднак расьці добра ня хоча. Чалавек мусіць таксама аджыўляцца (есьці), бо йнакш памрэ з голаду. І то мусіць есьці ня толькі адзін хлеб, але й цёплую акрашаную (засвараную) страву, у якой ёсьць агароднiна. У месьце ядуць менш агароднiны, а больш мяса. Папівае чалавек і ваду, бо без вады таксама няма жыцьця. Знача, чалавек зьядае розную страву з living рознымі дадаткамі, нпр. есьць хлеб, бульбу, капусту, бацьвіньне, часам мяса, а да таго дадае клустасьць і соль, перац і г. д. Чалавек мае рот, у роце зубы, якімі ўсю спажыву пераржоўвае, а страўнікам і кішкамі ператраўляе, г. зн. перамельвае грубыя кускі стравы ў кроў. Тое, што чалавеку не патрэбна, выходзіць вон з калам.

Расьліна мае, так-бы сказаць, два роты. Адзін рот гэта карэньне, другі — гэта лісьцё. Бяз лісьця і карэньня ня можа жыць і радзіць плады. Калі хтось абрывае з расьліны лісьцё (напр. зжынае зялёны бульбоўнік), дык ён уганяе расьліну ў гроб — робіць сам сабе шкоду. — Вот-жа, як сказана, карэньне і карэньчыкі гэта рот, якім расьліна цягне

спажыву з зямлі. Лістамі-ж бярэ расьліна страву з паветра.

Калі чалавек есьць шмат клустае стравы, дык грубее, а калі п'е шмат вады, дык дужа поціцца. Калі карэньчыкі збожа цягнуць з зямлі шмат спажывы, якая называецца *азот,* дык збожа расьце буйна, мае шырокія, цёмна-зялёныя лісты, а як глянуць на талое збожа, дык радасна на душы. Кажам тады, што поле сільнае. Калі акрамя азоту ёсьць у зямлі йшчэ пад дастаткам другой спажывы, якую называюць *фосфарам,* тады снапы даюць цяжкае зерне. Знача, фосфар прыдае збожу большую вагу, а азот падганяе буйнасьць. Калі на вясну пшаніца мае вузенькія жоўтыя лісткі, якія старчаць у гару і ня зьвісаюць, дык там напэўна зямля ўбогая на азот. Там трэба было-б зараз раньняй вясной разсеяць прынамся 60 клг на гэктар штучнага гною, які называецца салетрай (гэты гной мае азот) і ўжо за тыдзень пшаніца набрала-б лепшага выгляду. Дзе з году ў год сеецца збожа, там бадай ня будзе ўдоваль фосфару. Збожа сільна выцягвае з зямлі фосфар. Ужо невялічкі прыдатак фосфарнага гною (томасыны, або супэрфосфату) павялічвае на такіх землях выдайнасьць. Калі ніўка родзіць вялікую салому, а дробнае зерне, дык там трэба гнаіць томасынай, або супэрфосфатам. Калі ў зямлі ёсьць азот і фосфар, а няма трэцяй стравы — *потасу,* дык збожа часта хварэе, сьцябло ягонае ня моцнае і таму лёгка кладзецца. Потас, быццам перац, паддае расьліне смаку і тады яна лепш разьмяшчае свае прыпасы, хутчэй у ёй перабягаюць сокі (як у чалавека кроў) і лепш расьце. Землі пескаватыя і тарфяністыя аж пішчаць за потасам. Там ня раз хопіць пасеяць крыху каініту, або потасавай солі, каб сабраць падвойны ўраджай. Потасам расьліна лечыцца ад шмат якіх хваробаў і таму ёсьць ён для яе быццам аптэкай. Чэскі прафэсар-аграном Стокляса абрахаваў аднаго разу запасы потасу ў чэскіх землях